ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№9 (42) верасень 2014 год
CATHOLICNEWS.BY

## Будуецца першая ў Беларусі каталіцкая ШКОЛА



Рэпартаж з Місіі Добрага Самараніна ў Мінску чытайце на старонцы 4

## Выгнанаму сыну гэтай зямлі...

Старонка 2






## Святарскія пасвячэнні на ложы смерці

Старонка 5

# Выгнанаму сыну гэтай зямлі...

## У Друі адзначылі 100-годдзе з дня нараджэння біскупа Чэслава Сіповіча

**Ва ўрачыстасці ў Друі 31 жніўня ўдзельнічалі Апостальскі Нунцый у Беларусі Клаўдыё Гуджэроці, біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, біскуп са Славакіі Мілан Лях, Апостальскі Візітатар для грэка-каталікоў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, асістэнт Апостальскага Візітатара для беларусаў замежжа айца Аляксандра Надсана айцец Сяргей Стасевіч (Лондан). Сам айцец Аляксандр Надсан не змог прыехаць па стане здароўя.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*

***Упершыню арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці прамовіў гамілію на беларускай мове – у знак павагі да памяці біскупа Сіповіча.***

Святкаванне распачалося асвячэннем новых помнікаў на магілах бацькоў Чэслава Сіповіча, якія пахаваныя на могілках у вёсцы Дзедзінка. Таксама была асвечаная капліца ў вёсцы Друйск. Пасля абеду ў Друі сустрэлі Апостальскага Нунцыя, які і ўзначаліў святочнае набажэнства.

На пачатку Імшы была адкрыта памятная дошка з бюстам Чэслава Сіповіча, 100-годдзе з нараджэння якога адзначаецца ў гэтым годзе. Тэкст на ёй напісаны беларускай лацінкай.

Падчас Імшы арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці прамовіў гамілію на беларускай мове. Гэта ён зрабіў упершыню. У сваім казанні арцыбіскуп распавёў пра нялёгкі шлях беларускага святара.

Па словах Апостальскага Нунцыя, Чэслаў Сіповіч быў тым чалавекам, які ўсім сваім сэрцам шукаў Бога. "Ён мог бы мець спакойнае законнае жыццё. Дастаткова было б прыняць перакананні тых, хто настойліва навязваў яму чужую ідэнтычнасць. Шмат пакутаў абмінулі б яго, і, паводле сучаснага мыслення, ён быў бы шчаслівым...

Было б дастаткова адрачыся ад сваёй беларускасці, згадзіцца на тое, каб гэты народ быў яшчэ раз прыніжаны, як гэта было на працягу стагоддзяў: народ, які лічылі нікім і нічым, безыменнае стварэнне, невядомая зямля сярод вядомых краін, бязлюдная тэрыторыя.

Калі б Чэслаў Сіповіч зрабіў такі крок, то задаволіў бы гэтым шмат каго, у першую

***Чэслаў Сіповіч на той час быў адзіным беларускім каталіцкім біскупам.***

чаргу, магутных гэтага свету, якія лічылі сябе цывілізаванымі пратаганістамі наўяртання ў чужую культуру, а не ў веру."

Папскі пасланнік адзначыў, што Чэслаў Сіповіч на той час быў адзіным беларускім каталіцкім біскупам. Ён не лічыў сябе героем, а звычайным сведкам веры. "Гэта быў цяжкі крыж. Чэслава Сіповіча абвінавацілі ў шавінізме, нацыяналізме, фанатызме. Ён бачыў, як паволі змяншалася паства, бачыў, як паміралі браты, з якімі ён згадзіўся перажываць гэтую прыгоду. Бачыў таксама, што свет, а часта і Касцёл, не разумелі добра ягоны народ."

Клаўдыё Гуджэроці звярнуў увагу, што цяпер біскуп Сіповіч павінен радавацца, калі чуе ў друйскім касцёле малітву на роднай мове. У знак павагі да яго памяці менавіта тут, у Друі, Апостальскі Нунцый упершыню прамовіў па-беларуску.

Пасля Літургіі быў асвечаны новы абраз святога Юзафа для касцёла, пасля чаго адбыўся канцэрт, які падрыхтавалі вернікі з суседняй парафіі ў Слабодцы.



***

Чэслаў Сіповіч – (8 снежня 1914 г., в. Дзедзінка, Браслаўскі павет – 4 кастрычніка 1981 г., Лондан) – беларускі грэка-каталіцкі святар, генерал супольнасці марыянаў, візітатар для беларусаў грэка-каталікоў замежжа. Навучаўся ў кляштары марыянаў у Друі, там жа вырашыў стаць манахам. У 1935 – 1938 гадах вывучаў філасофію і тэалогію ў Віленскім універсітэце. Але закончыць адукацыю яму не далі польскія ўлады, якія выселілі яго разам з іншымі беларускімі марыянамі з друйскага кляштара.

Далей вучобу працягваў у Рыме, дзе абараніў доктарскую дысертацыю. Дамагаўся трансляцыі Ватыканскага радыё на беларускай мове. З 1960 па 1981 год біскуп Чэслаў Сіповіч з'яўляўся Апостальскім візітатарам для беларусаў грэка-каталікоў у замежжы.

# Мая Мама

Мне першы раз пашчасціла наведаць Браслаў (дарэчы, пешшу, падчас пілігрымкі з нашым цудоўным кіраўніком ксяндзом Вячаславам). Як моцна мяне ўразіў касцёл! Я не магу словамі выказаць, якую сілу дае гэты цудоўны абраз Маці Божай! Не змагла стрымаць перад ім слёз падзякі за ўсё дабро, якое дае мне, маім дзецям, блізкім, знаёмым. Яшчэ мяне вельмі ўразіла казанне на Імшы, калі ксёндз распавёў апавяданне для дзяцей. Мне захацелася пераказаць яго ў вершы. Як атрымалася – мяркуйце!

***Францішка Бервячонак**, г. Глыбокае*

*Настаўнік даў даручэнне*
*У класе, якім кіраваў,*
*Каб кожны малы сачыненне*
*Пра маці сваю напісаў.*

*Праз тыдзень на ўроку чытання*
*Пра маму чытаў кожны з іх.*
*Няцяжкае гэта заданне,*
*Бо добрыя мамы ва ўсіх.*

*Чарга падышла, і да дошкі*
*Ясь смела, як рыцар, ступаў.*
*Як зоркі свяціліся вочкі,*
*Чытаць сачыненне пачаў.*

*Матуля мая дарагая!*
*І лепшай на свеце няма!*
*Ва ўсім яна мне памагае,*
*Без слоў усё знае сама.*

*У ранак марозны сагрэе,*
*Як з ранцам у школу бягу.*
*І ранец як быццам лягчэе,*
*Скакаць нават лёгка магу.*

*Калі я са школы спазнюся,*
*Не будзе ў гэтым бяды.*
*Нічога я з ёй не баюся,*
*Яна абароніць заўжды.*

*Ясь скончыў чытаць, і трывога*
*Напоўніла класны пакой,*
*Бо вучняў жа ведала многа,*
*Што Ясь круглым быў сіратой.*

*Настаўнік і дзеці таксама*
*Рашылі ў яго запытаць:*
*"Такая цудоўная мама,*
*Ты можаш яе паказаць?"*

*" Магу", – нетаропка з кішэнькі*
*Цудоўны абразок ён дастаў.*
*На ім Маці Божа з маленькім,*
*"Вось Мама", – ён ціха сказаў.*

*А потым дадаў: "Мая мара*
*Спакою даўно не дае.*
*Як Езуса зараз трымае,*
*Туліла б да сэрца мяне".*

# Асвячэнне капліцы ў вёсцы Паташня

**У вёсцы Паташня Мёрскага раёна 6 ліпеня 2014 года на могілках адбылося асвячэнне капліцы Маці Божай Балеснай.**

На могілках перад капліцай сабраліся на малітву вернікі з Паташні і з навакольных вёсак Дэмскія, Драгуны, Сташулі, Александрына, а таксама з Мёраў, Верхнядзвінска і нават з Санкт-Пецярбурга. Святую Імшу ўзначаліў ксёндз Леанід Мозгель з Павяцця, які і правёў абрад асвячэння. У Святой Імшы ўдзельнічаў хор з лявонпальскага касцёла пад кіраўніцтвам Таццяны Станіславаўны Шук, які сваім цудоўным спевам праслаўляў Бога ў гэтай капліцы.

Будаўніцтва капліцы пачалося ў кастрычніку 2011 года па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам жыхара вёскі Паташня Валерыя Блажэвіча. Дзякуючы яго энтузіязму, руплівасці і цярпенню з'явілася гэтая хоць невялікая, але такая патрэбная святыня.

Актыўнымі будаўнікамі капліцы былі Уладзімір Блажэвіч, Іван Блажэвіч, Генадзь Блажэвіч, Юрый Сівіцкі, Эдвард Рэут, Альдэфонс Мяніцкі, Феліцыянт Зорын, Міхаіл Пялік.

Канечне, мы, мясцовыя жыхары, усведамляем: асноўная роля ў тым, што на могілках «Паташня» пабудавана капліца, належыць сям'і Блажэвічаў. Мы ўсе добра ведаем гэтую дружную сям'ю і добра ведаем братоў Блажэвічаў, якія пражываюць у Паташні. У дзяцінстве яны рана засталіся без таты. І мама – Антаніна Блажэвіч – адна змагла выхаваць пяць сыноў і дачку так, што яны сталі найлепшымі сярод нас. У тыя няпростыя часы захавалі веру і сямейныя традыцыі, захавалі найлепшыя жыццёвыя каштоўнасці: пачуццё падзякі і павагі да старэйшых, шанаванне родных, адказнасць за выхаванне сваіх дзяцей, дапамога ўсім, хто побач.

Уладзімір, Валерый, Генадзь вылучаюцца нястомнай працаздольнасцю, актыўнасцю, дапамагаюць кожнаму і ў бядзе, і ў радасныя хвіліны. Яны з'яўляюцца прыкладам чалавечай дабрыні. Ніводныя пахаванні на могілках «Паташня» і на суседскіх могілках, добраўпарадкаванне могілак не абыходзіцца без іх удзелу.

Сястра Алена з Глыбокага перадала ў капліцу сямейную рэліквію – Крыж, захаваны ў сям'і з часоў знішчэння касцёла ў вёсцы Багданова.

Мы дзякуем Пану Богу за магчамасць будаўніцтва гэтай капліцы, на гэтым месцы, дзе калісьці была капліца і якую разбурылі ў савецкія часы. Дзякуем Пану Богу, што хапіла сілы давесці будаўніцтва да канца, хоць гэта было так няпроста.

Мы дзякуем ксяндзу Леаніду Мозгелю за душпастырскую апеку будаўніцтва капліцы, за кіраўніцтва дызайнерскім аздабленнем памяшкання і за падораны нам абраз Маці Божай Балеснай.

Мы ўдзячныя ўсім ахвярадаўцам, якія матэрыяльна дапамагалі будаўніцтву. Тут ёсць уклад кожнага з нас, большы або меншы, бо кожны, чые родныя і блізкія пахаваныя на гэтых могілках, наколькі мелі магчымасць і жаданне, уносілі свой уклад ва ўзвядзенне святыні працай або грашовымі сродкамі.

Дзякуем фундатару будаўніцтва – дырэктару адкрытага акцыянернага таварыства «Мерыца» Алёне Браніславаўне Лаўрыновіч за пастаянную падтрымку ўсіх праведзеных тут работ.

Напрыканцы ўрачыстасці ксёндз Леанід Мозгель падзякаваў будаўнікам капліцы і пажадаў, каб яна, збудаваная для здзяйснення святых абрадаў, стала духоўным аазісам Божых ласкаў для ўсіх тых, хто будзе на гэтым месцы слухаць Божае слова.

*Ад імя вернікаў з вёсак Паташня і Дэмскія,*
***Алена Сакалоўская***

# Пастыр, які не пакінуў статак

## Да 40-годдзя з дня смерці ксяндза Андрэя Булькі

**Прасачыць ад самога пачатку святарскі шлях кс. Андрэя Булькі (1892 – 1974 гг.) не атрымалася. Дзе вучыўся, першае месца працы – гэта засталося нявысветленым. Але захавалася людская памяць. Пра кс. Андрэя Бульку з цеплынёй і ўдзячнасцю ўспамінаюць людзі з парафій, дзе ён прапаведваў Божае слова. Я сабрала ўспаміны людзей з розных месцаў і розных пакаленняў, якія адлюстроўваюць тую эпоху, калі жыў і працаваў ксёндз Андрэй Булька, а таксама яго адданасць веры і адносіны да людзей.**

**Іаланта Валуевіч**

### Праца на Астравеччыне

У канцы 1939 г., пасля Дрысвят, кс. Булька быў накіраваны на Астравеччыну ў касцёл Маці Божай Шкаплернай у Жукойнях-Жалядскіх.

**Б. Дзевялтоўскі,** былы закрыстыян жукойне-жалядскага касцёла:

*– Са святаром у нас склаліся найлепшыя адносіны. Не адзін раз па яго просьбе на падводзе вазіў яго да бацькоў у Швянчоніс. Жылі яны ў пачатку гарадка, ад нашага заезду. Пасля, калі святара накіравалі ў Камаі – апошняе месца працы, наведваў яго і там. Многіх жалядскіх парафіян ён давёў да першай Св. Камуніі, яго і па сённяшні дзень успамінаюць з павагай, удзячнасцю і любоўю.*

**Ганна Мураўская,** жыхарка Вільні, былая парафіянка Ж.-Жалядскіх:

*– Дапамагаць людзям, ратаваць не толькі душы, але і іх саміх – было жыццёвым крэда ксяндза Булькі. Гэта гісторыя звязана з яго прабываннем у Жукойне-Жалядскім касцёле – яркі прыклад яго самахвярнасці.*

*Кс. Андрэй выратаваў ад вернай смерці хлопчыка са староверскай сям'і з мястэчка Свір. Звалі гэтага хлопчыка Сяргей Собаль. Яго бацькоў расстралялі фашысты. На жаль, ужо ніхто дакладна не памятае, за якія правіны фашысты знішчылі гэту сям'ю, але, каб выратаваць хлопчыка ад далейшага праследавання, ксёндз яго перахрысціў на каталіцкую веру і даў імя і прозвішча, вытворнае ад свайго імені: Андрэй Андрыеўскі (Анджэй Анджэеўскі). Некаторы час хлопчык жыў разам, паслугаваў у святой імшы, а пасля ксёндз адправіў яго ў Польшчу да сваіх родных. Андрэй Андрыеўскі працаваў у Польшчы таксістам. Ажаніўся з немкай пані Ірэнай, якая была прадпрымальніцай. А калі нарадзіўся іх першынец, то назвалі яго, канешне ж, у гонар кс. Булькі – зноў жа Андрэем.*

*Андрыеўскія раней частымі гасцямі былі ў Спондах, на Астравеччыне, і кожны свой прыезд наведвалі Камаі. Сям'я Налівайкаў, да якіх яны прыязджалі, неаднойчы бывала ў Польшчы ў іх доме і расказвалі, што ў пакоі на самым ганаровым месцы вісеў партрэт ксяндза Андрэя Булькі. Затым сям'я Андрыеўскіх пераехала ў Германію і сувязь, на жаль, перарвалася.*

Пасля Ж.-Жалядскіх кс. Андрэй Булька працаваў у Камаях з 1944 па 1974 год.

### Камяні і знявагі

**С.В. Мацур,** былая настаўніца Камайскай СШ:

*– Колькі ж прыніжэння і пакут давялося перацярпець гэтаму святару! Жыццё яго, як і большасці святароў у той перыяд, было вельмі цяжкім. Акрамя праследавання і розных абмежаванняў ад савецкіх уладаў, часта даводзілася цярпець зневажанні і прыніжэнні ад тых, з кім сустракаліся амаль штодзённа – ад вяскоўцаў і іх дзяцей. Неаднаразова расказваў, як яго зневажалі вучні, калі ён праходзіў міма школы, а бацькі і настаўнікі не толькі не спынялі гэтыя здзекі, але нават кпілі. І паскардзіцца не меў каму, апроч толькі Бога. Бывала, што дзеці, канешне ж, падбухтораныя старэйшымі ці бацькамі, шпурлялі ў яго камянямі, білі вокны ў плябаніі ў яшчэ рабілі шмат прыкрасцяў. А ён моўчкі, цярпліва ўсё зносіў і маліўся за сваіх крыўдзіцеляў.*

**Каб выратаваць хлопчыка ад смерці, ксёндз яго перахрысціў на каталіцкую веру і даў яму імя і прозвішча, вытворнае ад свайго імені: Андрэй Андрыеўскі (Анджэй Анджэеўскі)**

*Аднойчы красавіцкім ранкам мы з сынам ішлі ў школу. Наперадзе ад нас ішоў, абапіраючыся на палку, невысокага росту чалавек. Гэта быў ксёндз камайскага касцёла. Мой сын абагнаў яго і прывітаўся. Ксёндз прыпыніўся і спытаў у мяне: "Чый гэта хлопчык? Іншыя кідаюць у мяне камянямі, а ён прывітаўся". Я адказала, што гэта мой сын. Так пачалося нашае знаёмства і сяброўства.*

*Сустракаючыся на вуліцы, мы віталіся, размаўлялі, абмяркоўвалі падзеі. У ксяндза быў свой мудры погляд на падзеі і адказ на жыццёвыя пытанні.*

### Ратаўнік партызанаў

**Кс. Яцэк Хутман,** пробашч камайскага касцёла:

*– Ксёндз Андрэй Булька заўсёды прыходзіў на дапамогу людзям у кожнай патрэбе. Расказвалі, што дапамагаў партызанам. У час Вялікай Айчыннай вайны выратаваў ад смерці і хаваў у сябе партызанскага камандзіра, рызыкуючы ўласным жыццём, які пасля стаў высокім партыйным чыноўнікам. У знак удзячнасці той не дапусціў, каб камайскі касцёл быў зачынены.*

*Ксёндз Булька быў знаходлівым у цяжкіх сітуацыях. Калі пачуў, што з касцёлаў пачалі вывозіць арганы, ксёндз, каб не пакінуць сваіх парафіян і будучыя пакаленні без знакамітага камайскага аргана, прыдумаў, як яго выратаваць (усё геніяльнае проста!): разукамплектаваў, дастаўшы некалькі самых важных дэталяў, і аддаў на схову надзейным людзям. Калі прыехала камісія забіраць арган, то аказалася, што ён няспраўны, а значыць, і нікому не патрэбны. Так дзякуючы самаахвярнасці і знаходлівасці кс. Булькі камайскі касцёл выстаяў у гады ліхалецця і арган да сённяшняга дня цешыць вернікаў і ўзносіць іх дух да Бога.*

**Вераніка Грэська,** жыхарка в. Камаі:

*– Колькі ж дабра зрабіў для свайго бліжняга гэты мудры, таленавіты святар! На пачатку 20 ст. моладзь масава выязджала на заробкі ў Латвію. Некалькі дзяўчынак з Камаяў нарадзілі там дзяцей і адмовіліся ад іх. Дзяцей забралі ў іншыя сем'і. Аднаго хлопчыка ўзяў і выхоўваў ксёндз Булька. Звалі таго хлопца Петрык. Ён дапамагаў ксяндзу у гаспадарцы (у той час святары мелі надзелы зямлі і гаспадарку). Хадзіў у школу, як і ўсе мястэчковыя дзеці. Праўда, потым аказаўся той Петрык няўдзячным: абакраў ксяндза і ўцёк у Карэлію.*



Першая Камунія ў савецкія часы

### Ручны журавель і беларуская літаратура

**І.П. Драўніцкі,** краязнаўца, памятае, *"што ў ксяндза Булькі жыў ручны журавель. Гэта таксама сведчыць пра яго добрае сэрца і міласэрнасць. Яго выхаванец, Петрык, прыходзіў з гэтым жураўлём у школу. Пакуль сядзеў на занятках, журавель важна праходжваўся каля вокан школы, чакаючы свайго сябра, чым, канешне, моцна адцягваў увагу вучняў ад вучобы. Петрык быў даволі свавольным хлопчыкам: паслугуючы ксяндзу ў святой імшы, падглядзеў, дзе стаіць віно, і, бывала, збіраў сяброў і частаваў іх царкоўным віном, а астатняе разбаўляў вадой, каб не прыкмеціў пробашч".*

**Г. Дубіловіч,** парафіянка:

*– Нават сама не ведаю, чаму мне так урэзалася ў памяць, як аднойчы, калі мне было яшчэ гадоў 12, на споведзі кс. Андрэй Булька спытаў чамусьці, якіх я ведаю беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Я добрасумленна пералічыла ўсіх, каго ўспомніла – літаратурай я захаплялася і была чытачом сельскай і школьнай бібліятэк. Гэтая споведзь не выходзіла з галавы і, магчыма, дала накірунак выбару прафесіі: я стала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры.*

У апошнія гады кс. Андрэя Бульку сталі даймаць болі ў жываце. Муж і жонка Мацуры, якія былі добрымі сябрамі святара, параілі звярнуцца да ўрача, але ён ігнараваў парады і звыкла цярпеў. А калі ўжо стала невыносна трываць, напісаў паштоўку ў Польшчу, каб прыехалі сёстры і забралі да яго сябе. Адразу ж, тэрмінова, зрабілі аперацыю ў адной з клінік польскага горада Тарнова, але на трэці дзень пасля аперацыі кс. Андрэй памёр. Гэта было 5 верасня 1974 года. Адышоў да Пана ва ўзросце 82 гады, і 55 гадоў быў святаром. Сёстры паведамілі пра гэту сумную падзею ў Камаі.

**Айцец В. Жэльветра,** пробашч ліпнішскага касцёла:

*– Калі стала вядома, што кс. Булька памёр, з глыбокім болем і сумам многія жыхары Камаяў і некаторыя святары звярнуліся да савецкіх улад з просьбай дазволіць адправіць пахавальную імшу у касцёле, дзе кс. Андрэй адслужыў Богу і людзям 30 гадоў. Не атрымаўшы адназначнага адказу, на трэці дзень сабраліся ў святыні вернікі і ксяндзы з розных дыяцэзій. Але распачаць святую імшу не змаглі: незнаёмыя людзі ў цывільным груба і нахабна распіхвалі народ: "Разойдитесь! Все по домам!". Кс. Карпінскі з Мураванай Ашмянкі напісаў пасля гэтага інцыдэнту ў Маскву ліст, дзе падрабязна распавёў усё, што адбылося, і падкрэсліў: "Такія начальнікі забылі словы Леніна аб тым, што мудры камуніст не пасаромеецца павучыцца і ў капіталіста, калі гэта патрэбна для справы". Пасля гэтага зварота ўпаўнаважанага па справах рэлігіі ў Мінску як карова языком злізала.*

Кс. Андрэй Булька пахаваны ў Тарнове ў Польшчы.

Пражыў цяжкія гады праследу, але не здрадзіў Богу, веры і Касцёлу.

# Будуецца першая ў Беларусі каталіцкая школа

**"Каталіцкая школа", "хрысціянскае выхаванне"... Гэтыя словазлучэнні асацыяваліся ў мяне больш з Паўночнай Амерыкай, Германіяй, ды ніяк не з Беларуссю. Але пасля таго, як мне давялося пабываць у "Дабрачыннай Місіі Добрага Самараніна" ў Мінску, маё меркаванне змянілася.**

**Ірына Грэйць**, *тэкст;*
**кс. Віктар Місевіч**, *фота*

"Дабрачынная Місія Добрага Самараніна" прайшла дзяржаўную рэгістрацыю і мае свае статуты. Паводле іх, мэтай арганізацыі ёсць хрысціянскае выхаванне маладога пакалення. Апякуюцца "Місіяй" сёстры-уршулянкі.

Сястра Часлава Навіцкая, дырэктар "Місіі", прывітаўшы нас – супрацоўнікаў "Каталіцкага Весніка" – распавядае: "Калі я толькі прыйшла ў кляштар, мне давялося працаваць у дзіцячым садку ў Польшчы. Ужо тады я марыла стварыць нешта падобнае і ў Беларусі. Шмат малілася і прасіла Бога аб дапамозе. Пачаткі такой дзейнасці былі пры парафіі ў Бешанковічах. А цяпер вось у Мінску. Мы з сёстрамі актыўна працавалі з бацькамі і дзецьмі. Трэба было паказаць на прыкладзе, што манахіні – гэта не толькі захутаныя жанчыны, якіх запіраюць у манастыры, але добрыя выхавальніцы і педагогі".

### Каталіцкае выхаванне і бацькі-атэісты

Сястра Часлава распавядае пра планы: "Сёлета, 14 кастрычніка, мы адзначым Дзень маці. Будзем праводзіць канферэнцыю, запросім святара. На святы дзеці ў "Місіі" заўсёды рыхтуюць канцэрты і падарункі для бацькоў. На Божае Нараджэнне – традыцыйная батлейка. У студзені абавязкова прыязджаюць бабулі і дзядулі. Загадзя нашы выхаванкі робяць і дасылаюць ім запрашэнні. А 19 сакавіка, у дзень святога Юзафа, збіраем правесці Свята таты".

Цікава, што ў "Місіі Добрага Самараніна" выхоўваюцца дзеці як з каталіцкіх, так і з праваслаўных сем'яў. У некаторых дзетак бацькі зусім не вераць у Бога. "Чаму тады бацькі, якія не вераць, аддаюць сваіх дзяцей на дашкольнае выхаванне ў каталіцкую "Місію"?" – пытаюся ў сястры Чаславы? "Таму што тут зусім іншы падыход да дзяцей, – адказвае яна. – У нас, напрыклад, на пятнаццаць дзетак тры выхавальнікі. Усе з выдатнай педагагічнай адукацыяй і шчырыя вернікі. Акцэнт робіцца, перш за ўсё, на ўзаемную пашану і любоў. Мы вучым дзяцей клапаціцца і заўважаць тых, хто побач. Напрыклад, перад выхадам на вуліцу старэйшыя дзеці дапамагаюць малодшым апранацца. У гутарках заўсёды гучыць "Калі ласка" і "Дзякуй".

Раз на тыдзень дзеці з выхавальнікамі прымаюць удзел у Святой Імшы. Малітва, гульні і адукацыйныя заняткі – усё гэта яднае іх між сабой. Таму многія, ужо будучы школьнікамі, часта завітваюць у "Місію". А на канікулах разам адпачываюць у летніках.

### Беларуская мова – гэта галоўнае

У "Місіі Добрага Самараніна" вялікую ўвагу надаюць хрысціянскаму і агульначалавечаму выхаванню. Акрамя асноўных ведаў па рэлігіі, дзеці вывучаюць матэматыку, англійскую і польскую мовы, займаюцца маляваннем, танцамі і музыкай.

Сястра Часлава прызнаецца: "Гледзячы на тое, якое выхаванне атрымліваюць нашыя дзеці ў "Місіі", вяртаюся думкамі ў сваё дзяцінства. У нас, людзей савецкага пакалення, пра такую "Місію" і думаць нельга было. Я спадзяюся, што дзеці, з якімі мы зараз займаемся, вырастуць вельмі добрымі людзьмі і сумленнымі грамадзянамі нашай краіны. Яны – наша будучыня".

Гутарка перарываецца візітам бацькоў, якія прыехалі, каб забраць дзяцей дамоў. Выкарыстоўваючы момант, падыходжу да маладой мамы, знаёмлюся і пытаюся ў яе: "Якія Вашыя ўражанні ад "Місіі Добрага Самараніна"?" Дыяна Тышкевіч-Казак адказвае: "Мне вельмі спадабалася, што тут займаюцца з дзецьмі па-беларуску. І гэта было адным з асноўных крытэрыяў, чаму я аддала сваю дачку сюды. Апрача беларускай мовы, важным лічу і духоўнае выхаванне, якое тут даюць дзецям".

Побач яшчэ адна маладая мама апранае сваё дзіця. Пытаюся ў яе пра ўражанні. Ірына Гурская распавядае, што прывяла ў "Місію" свайго сына з гэтай жа мэтай: "У звычайным дзіцячым садку няма той духоўнасці, якая ёсць тут. Магу параўнаць, таму што звычайны садок наведваў мой старэйшы сын. Там не хапала гэтай духоўнасці. А тут я кожны раз заўважаю, што выхавальнікі "Місіі" не проста ходзяць на працу, а жывуць ёй".

### Самая чыстая будоўля ў сталіцы

Дабрачынная "Місія Добрага Самараніна" – добрая справа. Яна зарэгістраваная і дзейнічае пры Мінскай катэдры і Чырвоным касцёле. Але для таго, каб працягваць працу ў больш шырокіх маштабах, патрэбны будынак.

Сястра Часлава распавяла, што яшчэ ў 2011 годзе ў Мінску па вуліцы Серафімовіча ўладамі на баланс Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі быў перададзены будынак былой школы, які знаходзіўся ў аварыйным стане. Цяпер там актыўна вядуцца рэканструкцыйныя работы.

Мы не ўтрымаліся ад таго, каб не паехаць і на свае вочы не ўбачыць, як паўстае першая каталіцкая школа ў Беларусі.

Аб'ект агароджаны будаўнічым плотам, на верхніх паверхах бачныя постаці рабочых. "Гэта нашы працаўнікі", – кажа с. Часлава. – Вельмі сумленна працуюць, але усё ж нагляд патрэбны", – кажа яна, беручыся за лесвіцу. З заміраннем сэрца гляджу, як маладая манахіня спрытна ўскоквае па рыштаваннях наверх. Я даўно звыклася з думкай, што святары могуць быць будаўнікамі. Але што манахіня камандуе будоўляй?!..

"Каштарыс вельмі дарагі, – скардзіцца с. Часлава. Мы за вываз аднаго толькі смецця заплацілі тры мільярды рублёў. А ведаеце, колькі каштуе ў дзень вось гэты кран? – яна паказвае рукой у бок вежавага крана, што працягнуў сваю стромую стралу над будынкам. – Два мільёны рублёў".

"Як жа вы спраўляецеся, – пытаюся ў сястры? Гэта пры будаўніцтве касцёла яшчэ неяк можна знайсці людзей і сродкі. А тут проста школа. Без парафіі, без вернікаў..."

"Ёсць добрыя людзі, – усміхаецца манахіня. – Я сама шмат хаджу і прашу дапамогі. Наш арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч дапамагае. А наогул, гэта Божая справа. Таму я ўпэўнена, што Езус нас не пакіне і школу мы абавязкова збудуем. Вось да зімы трэба паспець накрыць дах".

Наша экскурсія па будоўлі працягваецца. Сястра з захапленнем расказвае:

"Там будуць класы, тут – кабінет дырэктара, а гэтыя памяшканні – для кухні і сталовай".

Заўважаю, што на аб'екце, нягледзячы на самы разгар прац, зусім няма будаўнічага смецця. Сястра Часлава ўсміхаецца і кажа: "Нас за гэта нават пахвалілі нядаўна. Прыязджала адна праверка па будоўлі, і інспектар сказаў, што ва ўсім Мінску нікто так чыста не будуе".

Працоўны дзень заканчваецца, і мы разам з рабочымі спускаемся ўніз па рыштаваннях. Яшчэ раз акідваем зрокам незвычайны будынак і развітваемся з сястрой-прарабам. Яна ветліва адмаўляецца ад прапановы падвезці, таму што ў яе запланавана яшчэ адна сустрэча...

**_Я даўно звыклася з думкай, што святары могуць быць будаўнікамі. Але што манахіня камандуе будоўляй?!.._**



*Акрамя асноўных ведаў па рэлігіі, дзеці вывучаюць матэматыку, англійскую і польскую мовы, займаюцца маляваннем, танцамі і музыкай*



**Праект школы Дабрачыннай Місіі Добрага Самараніна пад апекай Святой Уршулі Ледухоўскай**

Пасля рэканструкцыі школа па вуліцы Серафімовіча ў Мінску будзе аддадзена ў карыстанне "Дабрачыннай Місіі Добрага Самараніна" пад апекай святой Уршулі Ледухоўскай. "Місія" займаецца выхаваннем дзяцей, у тым ліку дзяцей-інвалідаў, пачынаючы ўжо ад трохгадовага ўзросту аж да дасягнення паўнагоддзя.

Ахвяраванні на рамонт школы можна складаць на рахунак:
РА "Дабрачынная Місія Добрага Самараніна пад апекай Святой Уршулі Ледухоўскай", вул. Рэвалюцыйная, 1а, п. 7, 220030 Мінск, Рэспубліка Беларусь.
Тэл.: (+37517) 2036844, факс: (+37517) 2269092, 2890659.
Р/р 3015006161009 ААТ "Белзнешэканомбанк", вул. Мяснікова, 32
УНП 102366022, код 226;
АКПА 37527104;
САВУ 18990

# Віншуем!

*Паважанаму **ксяндзу Андрэю Пышынскаму** з нагоды Дня нараджэння (11 кастрычніка) дасылаю сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, Божага блаславення на далейшыя гады святарскай паслугі, дароў Духа Святога, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, плёнаў на Божай ніве, трываласці, радасці. Жадаю Вашым бацькам здароўя і ўсяго добрага ад Бога за выхаванне сына для службы Богу і людзям.*

*Усе парафіяне ўдзячныя за аднаўленне ў касцёле і вакол яго.*

***Парафіянка К. Л.***

*Ад шчырага сэрца віншуем **кс. Вячаслава Пялінка** з Днём нараджэння, а таксама з 13-годдзем святарства. Жадаем нашаму пастыру добрага здароўя, усмешкі, якая ніколі не сыходзіць з яго твару, ініцыятывы ў душпастырскай дзейнасці, новых пілігрымак да святынь і большай колькасці парафіян, якіх ён наварачвае да Бога праз даступнае разважанне слоў Святога Пісання.*

*А мы, парафіяне, будзем маліцца за нашага кс. Вячаслава.*

*Пад Божай Маці светлым абразом*
*Ў дзень кожны сэрцам памалюся,*
*Каб з Богам жыў у Глыбокім кожны дом*
*Ды кожны, хто жыве ў Беларусі.*

***Ад імя парафіян касцёла Св. Тройцы ў Глыбокім, Даната Сярогіна***

*Нашаму шаноўнаму пробашчу **ксяндзу Дзмітрыю Рацько** споўнілася 30 гадоў. З гэтай нагоды мы, парафіяне празароцкага касцёла, шчыра віншуем ксяндза Дзмітрыя і жадаем яму патрэбных Божых ласкаў, шчодрых дароў Духа Святога, апекі Маці Божай. Выказваем нашаму святару падзяку за ахвярную працу, за ўвагу да кожнага з парафіян, за абвяшчэнне Божага Слова. Няхай душпастырская праца ксяндза Дзмітрыя прыносіць багаты плён.*

***Вернікі з Празароцкай парафіі***

# Чаму хлопцы не ідуць у семінарыю?

**Кожны чалавек у сваім жыцці задумваецца, якую прафесію выбраць і кім працаваць. Некаторыя, адчуўшы ў сэрцы пакліканне, становяцца святарамі, каб сваё жыццё аддаць Госпаду. Чаму сёння зусім няшмат маладых людзей навучаецца ў беларускіх семінарыях?**

*Гутарыла Марына Брылёнак*



**Кс. Канстанцін Анашка:**
– Думаю, сёння моладзь баіцца адказнасці. Гэта датычыць не толькі семінарыі, але і манаства, і сям'і, і нават выбару працы. Мы прывыклі ўсё мець на нейкі час, паспрабаваць і выкінуць, калі не атрымалася (тэлефоны, машыны, адзенне). А любая адказнасць палохае, бо да нечага абавязвае. І асабліва адказнасць перад Богам. Семінарыя – гэта і ёсць адказнасць перад Богам.



**Таццяна Танана:**
– Думаю, шмат хлопцаў не маюць столькі адвагі, каб паверыць у тое, што менавіта на святарскім шляху будуць найбольш шчаслівымі і змогуць раскрыць усе свае таленты. Заўважала, што знаёмыя хлопцы, бачачы ў сабе нейкія недасканаласці, вырашалі, што святарскае жыццё не для іх, замест таго, каб даверыцца Богу. Ставілі нейкія ўмовы, маўляў, калі вось гэта змянілася б, тады я б стаў святаром. Тут мне адразу ўспамінаецца аповед пра сваё пакліканне біскупа Саратава Клеменса Пікаля. Ён, калі ўжо канчаткова вырашаў быць святаром ці не быць, маліўся словамі «Божа, калі Ты хочаш, я стану святаром, але гэта будзе не мая праблема, а Твая». І мне здаецца, што менавіта такой адвагі і даверу часта не хапае нашым хлопцам, каб адкрыцца на заклік Бога.



**Кс. Аляксандр Грыцкевіч:**
– Чаму зараз мала хлопцаў ідзе ў семінарыю? Я бачу тут дзве прычыны. Першая – гэта тое, што сёння вельмі моцны ўплыў на моладзь аказвае ідэалогія спажывальніцтва, асноўны пастулат якой – гэта жыццё выключна для ўласнага задавальнення. Жыццё паводле такога прынцыпу прыводзіць да поўнага замыкання чалавека на сваім «я», што робіць амаль немагчымым служэнне бліжнім. Але асноўнай прычынай адсутнасці пакліканняў да дыяцэзіяльнага святарства, на мой погляд, з'яўляецца вельмі малая колькасць сапраўдных святароў. Сапраўдных – гэта значыць, напоўненых Духам Хрыста. Сёння асноўная маса духавенства – гэта звычайныя працаўнікі, хоць бы і на ніве Пана, якія адпрацоўваюць сваё пакліканне, а не гараць ім. І такая халоднасць, вядома ж, не можа служыць прыкладам да наследавання. А моладзь патрабуе святароў, якія шчаслівыя ў сваім пакліканні, якія свецяцца Духам Святым і запальваюць сэрцы іншых. І пакуль святароў, у абліччы і жыцці якіх можна ўбачыць вобраз Хрыста, будуць адзінкі, нашыя семінарыі будуць пустымі.



**Сяржук Федарук:**
– На маю думку, многія вернікі-хлопцы проста хочуць стварыць сем'і. Таму стрымлівае, хутчэй за ўсё, цэлібат. Але я не бачу тут вялікай праблемы. На мой погляд, у Беларусі праблема недахопу святароў яшчэ не такая вялікая, як у Заходняй Еўропе, хоць згаджуся, што яна існуе. Яшчэ адна прычына ў тым, што вера ў Беларусі толькі адраджаецца. 70 гадоў бязбожнага атэізму-камунізму не прайшлі проста так. Таму ўжо ў нашага пакалення ёсць шансы змяніць сітуацыю. Я ўжо бачу многія сем'і вернікаў, дзе ёсць шмат дзетак, якіх выхоўваюць у глыбокай веры ад дзяцінства. Упэўнены, што праз гадоў 10-20 праблемы недахопу святароў у Беларусі ўжо не будзе.



**Саша Піліпчук:**
– Я лічу, што ў наш час мала каму патрэбна быць ксяндзом. Зараз ніхто не глядзіць на жыццё так, як трэба. Маладыя хочуць самастойнага жыцця: праводзіць час з сябрамі, гуляць па начах, знаёмствы толькі на адну ноч. Калі выйсці на вуліцу і задаць пытанне хлопцам «Ці пайшоў бы ты на вучыцца ксяндза?», 85% нават не будуць ведаць, хто такі ксёндз. Людзі паводзяць сябе так, быццам Бога няма, але самі патрабуюць Яго.

**Чаму маладыя людзі не ідуць у семінарыю?**

**Вынікі анлайн-апытання на сайце catholicnews.by**




Таму, што ў маладога пакалення змяніліся каштоўнасці – 28.4%
Таму, што святар не можа ажаніцца і стварыць сям'ю – 20.9%
Таму, што ў семінарыі складана вучыцца і строгае выхаванне – 0.5%
Таму, што заробак святара невялікі – 0.9%
Таму, што не кожны адчувае пакліканне – 40.5%
Іншы адказ (у каментарыях) – 8.8%

**Усяго галасоў: 215**

**Статыстыка:** У 2001 годзе ў Пінскую духоўную семінарыю на першы курс паступіла **14** чалавек. У 2013 годзе – **3** чалавекі. У 2014 годзе – **1** чалавек.
У Гродзенскую духоўную семінарыю ў 1990 годзе на першы курс паступіла **37** чалавек. У 2013 годзе – **5** чалавек. У 2014 годзе – **6** чалавек.

# Святарскія пасвячэнні на ложы смерці

**Біскуп каталіцкай дыяцэзіі ў Нэшвіле (ЗША) Дэвід Чобі ўдзяліў дыяканскія і святарскія пасвячэнні семінарысту проста ў шпіталі.**

*Паводле матэрыялаў www.thecatholictelegraph.com, www.dioceseofnashville.com*

Уільям Кармона, калумбійскі мігрант, быў адным з трынаццаці дзяцей у сям'і. Як сам ён напісаў у заяве, паступаючы ў семінарыю, пра святарства марыў з 12 гадоў. Аднак не меў дастаткова сродкаў, каб атрымаць тэалагічную адукацыю.

Перад прыездам у Злучаныя Штаты Амерыкі Уільям паспеў скончыць два гады філасофіі ў сябе на радзіме і працаваў у магазіне, каб зарабіць грошы на вучобу. Вывучаў эканоміку і працаваў у праваахоўнай сістэме Калумбіі. У Амерыку пераехаў у 2000-ым годзе, спадзеючыся паступіць у семінарыю ў Каліфорніі. Аднак гэтаму перашкодзілі слабыя веды ангельскай мовы.

Наступныя гады Уільям правёў у ордэне айцоў-сальватарыянаў, займаючыся перадусім моладдзю і дзецьмі. Па словах яго сяброў, дзеці вельмі любілі свайго апекуна. За гэты час ён ужо добра аваладаў ангельскай мовай, таму скіраваў просьбу да семінарыйных уладаў дыяцэзіі Нэшвіл прыняць яго ў групу студэнтаў, дзе з 2008-га года і навучаўся.

Уільям паспяхова набліжаўся да сваёй мары стаць святаром, аднак цяжка захварэў на анкалогію. Апынуўшыся ў шпіталі Сан-Антонія, асабліва, калі стан пагоршыўся, ён пытаўся ў сваіх аднакурснікаў, сабраных каля ложка: "Дзе біскуп Чобі? Калі ён сюды прыедзе? Колькі засталося гадзін да пасвячэння?"



**Кс. Уільям Кармона**
*(здымак перад хваробай)*

Біскуп Дэвід Чобі як толькі даведаўся пра цяжкі стан Уільма, адразу вырашыў паехаць да свайго семінарыста, каб удзяліць яму дыяканскія і святарскія пасвячэнні.

Пастыр дыяцэзіі прыехаў у Сан-Антонія 7-га верасня вечарам. Наступнага дня адбылася ўрачыстая Св. Імша з пасвячэннямі кс. Уільяма Кармоны.

Яна прайшла ў спецыяльным шпітальным пакоі, які загадзя падрыхтаваў персанал лякарні. На працягу набажэнства ўрачы і сёстры не адыходзілі ад манітораў, сочачы за станам Уільяма, які ляжаў у ложку. На Св. Імшы прысутнічаў арцыбіскуп з Сан-Антоніа, рэктар семінарыі, у якой навучаўся Уільям, а таксама святары, дыяканы і аднакурснікі хворага.

Уільям ужо не мог гаварыць. Але біскуп Дэвід Чобі запэўніў прысутных, што кандыдат у святарства ўжо раней даў сваю згоду прыняць гэты сакрамант. Падчас цэлебрацыі набажэнства святар, які стаяў ля ложка хворага Уільяма, бачыў на яго твары знакі ўзрушання і радасці. Каля двухсот чалавек вернікаў і персаналу лякарні ў гэты час маліліся ў актавай зале.

"Святарства ў сваёй істоце мае таямніцу адкуплення, якая заключаецца ў Хрыстовай смерці і ўваскрасенні", – сказаў біскуп Дэвід. Ён таксама дадаў, што святарскія пасвячэнні ксяндза Уільяма па прычыне такой блізкай для яго смерці адлюстроўваюць Пасхальную Таямніцу і прыпамінаюць нам, што і нашае жыццё пераўтвараецца ў смерць і ўваскрасенне Хрыста.

На наступны дзень пасля сваіх пасвячэнняў, 9-га верасня, ксёндз Уільям Кармона адышоў па ўзнагароду да Найвышэйшага Святара – Езуса Хрыста.



**Біскуп Дэвід Чобі ўскладае рукі на цяжкахворага Уільяма Кармону падчас удзялення сакраманту пасвячэння.**

# Кастылі для нявернікаў або дадатковая помач?



**Пра сакраманты і сакраманталіі разважае айцец-марыянін Аляксандр Жарнасек, экзарцыст Віцебскай дыяцэзіі.**

## Пра паняцці

Лацінскае слова "сакрамант" даслоўна азначае "таямніца". Па-грэцку гэтае слова гучыць як "містэрыя". Менавіта ў гэтым слове хрысціяне бачаць асаблівае, таямнічае дзеянне Бога. Мы маем шмат розных рэлігійных і псеўдарэлігійных абрадаў. Аднак ніякія з іх і блізка не стаялі з тым, што мы называем сакрамантамі.

Калі гаварыць простай і зразумелай мовай, а не надта вучонай і тэалагічнай, то розніца паміж сакрамантамі і сакраманталіямі заключаецца ў сіле Божага дзеяння і Яго прысутнасці. Сакраманты, перш за ўсё, вядуць нас да еднасці з Ім, да адносінаў з Ім, вядуць да збаўлення праз Смерць і Ўваскрашэнне Хрыста.

## Пра кашу ў галовах

Калі мы не ўбачым розніцы паміж сакрамантамі і сакраманталіямі, калі не паверым, што сакраманты спраўляе сам Хрыстос і Ён там прысутны, то будзем не хрысціянамі, якія пазналі Жывога Бога, а язычнікамі, якія пакланяюцца каменю, вадзе, агню і г.д. Перш за ўсё патрэбная вера. Гэтая вера дазваляе нам прыняць тое, што самае галоўнае. Калі людзі вераць, што пасвечаная вада або соль больш дзейнічаюць чым Хрыстос у Хросце або Эўхарыстыі, то гэта якраз і гаворыць пра няверу.

*Сакраманталіі для многіх людзей становяцца апраўданнем бязбожніцтва*

Паспрабую пакагзаць тыя моманты, калі сакраманталіі памылкова сталіся для людзей больш важнымі за сакраманты.

## Пахаванні

Маю балючы досвед, калі людзі пачынаюць перажываць і мітусіцца пасля таго, як чалавек памірае. Абрад пахавання – гэта сакраманталіі. Людзей пачынае хваляваць, ці запалілі свечкі, ці пасвяцілі вадой магілу, ці паставілі абразок на стале, ці далі ружанец у рукі і г.д. А чаму ніхто не хвалюецца пра тое, што нябожчык памёр без споведзі, што не хадзіў на Імшу? Часам людзі запрашаюць пасвяціць могілкі на 2 лістапада, а я маю ўражанне, што гуляю ў нейкія гульні ў дзіцячым садку.

Падобнае адчуванне маю таксама на пахаваннях. Ты робіш нейкія рытуалы, а гэта такія дробязі ў параўнанні з тым, што людзі не былі ў споведзі і не прымалі Святую Камунію! Паверце, што зусім інакш малюся духам і сэрцам, калі малюся разам з вернікамі, каторыя ведаюць, што галоўнае. Тады пахаванне мае іншы сэнс, бо ты ўжо аддаў першынство самаму важнаму, а цяпер робіш наступны крок.

## Пасвячэнні

На працягу года мы маем шмат розных пасвячэнняў і благаслаўленняў – свечкі св. Блажэя, хлеб св. Агаты, крэйда на Аб'яўленне Гасподняе, вада пры розных выпадках, соль і г.д. Часам у гонар нейкага асаблівага пасвячэння на Імшу збіраецца ў некалькі разоў больш людзей, чым у іншы звычайны дзень. На Пасху, Божае Нараджэнне або Вербніцу людзі прыходзяць спецыяльна раз у год на пасвячэнне. Абсалютная бязглуздзіца! Імша становіцца дадаткам да пасвячэння. Часам здаецца, што Яна нават тут лішняя. Зноў нявера. Людзі вераць у тое, што, напрыклад, хрысцільная вада больш мне дасць, чым прысутнасць на Святой Імшы ў нейкі звычайны будні дзень.

## Бласлаўленне рэчаў

Колькі разоў даводзілася мне чуць ад людзей, як іх Бог бароніць, бо яны носяць у кашальку абразок або пасвечаны пярсцёнак, або крыжык, або фігурку святога Крыштафа возяць у машыне.

Калі раптам мы губляем нашыя пасвечаныя рэчы, у нас нараджаецца паніка. Вось толькі дзіўна: чаму не нараджаецца паніка ад таго, што я не прыступаю да споведзі ці прапушчу св. Імшу?

Зноў нявера. Зноў сакраманталіі сталі важнейшымі ад сакрамантаў, і яны сталі для нас ідаламі і талісманамі.

## Абарона ад злога і малітва аб аздараўленні

Малітва вызвалення і малітва аб духоўным аздараўленні ўсё больш і больш распаўсюджваюцца ў Беларусі. І дзякуй Богу! Я сапраўды рады. Але малітва бласлаўлення з ускладаннем рук, малітва аб абнаўленні Духам Святым, пасвячэнне эгзарцызмаванай солі, вады і алею, а нават і сам эгзарцызм – гэта толькі сакраманталіі. Бог праз іх дзейнічае, але калі няма споведзі, Камуніі і Эўхарыстыі, то дзеянне гэтых сакраманталіяў становіцца вельмі мізэрным або на кароткі час. Калі не разумеем, што ў сакрамантах больш ласкі Божай, то мы ізноў прапускаем галоўнае. Часам калі да мяне прыходзяць хворыя і просяць аб малітве, я бласлаўляю іх, а пасля раптам узгадваю, што ёсць сакрамант намашчэння хворых, каторы па ўсёй логіцы і веры павінен прынесці больш Божай ласкі, не кажучы пра тое, што ў рытуале гэтага сакраманту прадугледжаны жэст малітвы з ускладаннем рук.

## Па веры будзе дадзена вам

Калі мы пачынаем разумець розніцу паміж сакрамантамі і сакраманталіямі, то многае залежыць ад нашай веры. Мы чытаем у Евангеллі, што ў Назарэце Езус не мог учыніць цудаў, бо людзі не верылі ў Яго Божую сілу. Калі мы верым у сем сакрамантаў, згодна з навучаннем Касцёла, то мы ўдзельнічаем у веры Касцёла, мы атрымліваем тую сілу і ласку, якую Езус пераказаў Касцёлу, называючы Яго сваім Целам, а Сябе – Яго Галавою. Канечне, калі мы верым у сілу асвечанай вады, то Бог праз яе дзейнічае, але гэта кропля ў моры ў параўнанні з тым, калі мы ад усяго сэрца паверым у асаблівую прысутнасць Бога ў святых сакрамантах.

Ідзе размова не пра тое, каб сказаць, што сакраманталіі няважныя, маўляў, гэта дробязі жыцця, а пра тое, каб усталявалася адпаведная іерархія, каб усё стала на свае месцы. Калі паверым у асаблівую прысутнасць Бога ў святых сакрамантах, то і розныя пасвячэнні набяруць для нас яшчэ больш важнага значэння. У мяне ў пакоі ляжаць хлеб св. Агаты, грамнічныя свечкі і свечка св. Блажэя, ёсць таксама эгзарцызмаваная соль, на дзвярах напісана С+М+В+2014, а ў некаторыя моманты не выпускаю з рук эгзарцызмаваны крыж, але я заўсёды стараюся абуджаць сваю веру ў найвялікшае першынство Эўхарыстыі і Пакаяння перад тымі рэчамі.

## Апраўданне бязбожніцтва?

У Святой Зямлі, калі экскурсавод сказала нам пра чарговае асабліва важнае месца, дзе можна пакланіцца або дакрануцца, я, паколькі такіх месцаў было ўжо даволі шмат, нікуды не пайшоў. Яна заўважыла гэта і спытала, чаму я не пайшоў "на паклон". Я адказаў, што чамусьці не маю такой унутранай патрэбы. Яна ўсміхнулася і адказала, што такія месцы – гэта "кастылі для нявернікаў". Яна не была хрысціянкай, але мне гэтая фраза спадабалася. Сакраманталіі для многіх людзей, якія не маюць жывых адносінаў з Богам, не ведаюць, што галоўнае, становяцца апраўданнем бязбожніцтва. Такія людзі не хочуць прызнаваць сябе атэістамі. Яны гавораць пра Бога ў сэрцы, пра святы і т.д. Нейкая там форма рэлігійнасці нібыта праскоквае, і яны спрабуюць апраўдацца, вось і хапаюцца за што папала ды што найпрасцейшае. Тады сакраманталіі сапраўды становяцца хоць нейкімі там "кастылямі". На жаль, гэтыя "кастылі" робяцца ілюзіяй і падманам.

Для таго, каб сакраманталіі не сталіся "кастылямі для нявернікаў", мы павінны ацаніць прысутнасць Езуса ў сакрамантах. Індыйскі эгзарцыст і харызмат а. Руфус Пэрэйра казаў, што ў тыя хвіліны, калі мы не можам скарыстаць сакрамантам споведзі ці Эўхарыстыі, Езус прыходзіць з помаччу да нас праз пасвечанаю ваду, соль, алей, крыжык і т.д. Мне вельмі спадабаўся і запамятаўся гэты каментар, таму што тут не ідзе гаворка пра "кастылі", тут усё на сваім месцы.

*Айцец*
***Аляксандр Жарнасек,***
*марыянін*

*Крыніца: viartannie.org (друкуецца са скарачэннямі)*

# Адкуль узяўся Ружанец?

**У старажытнасці быў цудоўны звычай – ахвяраваць асабліва годным людзям вянкі, сплеценыя з ружаў. Хрысціяне ўшаноўвалі Хрыста, Маці Божую і святых, складаючы ружавыя вянкі на алтар.**

**Марына Ткач**

Ружанец (на лаціне rosarium – ружавы кветнік) – пэўны спосаб малітвы, паслядоўнасць якой адлічваецца нібы па пялёстках ружы, што разгортваецца ярусамі па пяць малітваў у кожным.

Малітва гэта спалучана з роздумам пра падзеі з жыцця Езуса і Панны Марыі, што ўтвараюць чатыры часткі Ружанца.

Сам спосаб малітвы прыйшоў з хрысціянскага Усходу, дзе з'явіўся прыкладна ў III ст. Праз пяць стагоддзяў ён прыйшоў на Захад, дзе атрымаў лацінскую назву Pater noster (ад першых словаў малітвы Ойча наш, адсюль і беларускія "пацеркі").

Сучасная форма Ружанца ўсталявалася ў 1470-х гадах праз дамініканаў Алана дэ Рупэ і Якуба Шпрэнгера і была ўпершыню надрукаваная ў 1481 г. У 1520 г. яна была асвечаная папам Львом X і названая Ружанцам Найсвяцейшай Панны Марыі.

Актуальнасць Ружанцовай малітвы для нашага часу падкрэсліў Папа Ян Павел II у сваім Апостальскім лісце Rosarium Virginis Mariae, у якім запрасіў нанава адкрыць Ружанец і дапоўніў яго новай часткаю – таямніцамі святла, прысвечанымі публічнай дзейнасці Хрыста.

Таму, паважаныя чытачы, заахвочваем усіх Вас да ўдзелу ў штодзённых Ружанцовых набажэнствах ці ў касцёле, ці дома разам з роднымі і блізкімі. Маліцеся на Ружанцы!

# Ці з'яўляецца ружанец упрыгожаннем?

***"Нядаўна ў сацыяльных сетках з'явілася навіна пра тое, што ў беларускай інтэрнэт-краме мужчынскіх упрыгожанняў прадаюцца ружанцы. Ці з'яўляецца ружанец упрыгожаннем?"***

**На гэтае пытанне адкажа кс. Кірыл Бардонаў:**

– Кастрычнік па традыцыі асаблівым чынам прысвечаны ружанцовай малітве. Сам па сабе ружанец, як рэч, дапамагае гэтай малітве, дазваляе не згубіцца на дарозе медытацыі, паколькі, згодна з думкай святога Яна Паўла II, "ружанец адначасова з'яўляецца медытацыяй і просьбаю" (Rosarium Virginis Mariae п. 31). Гэтая медытацыя аб Хрысце разам з Марыяй (тамсама, п. 13 ) можа адбывацца на ружанцы ў яго "класічнай" форме ланцужка з выдзеленымі пяццю таямніцамі ці на ружанцы ў іншай форме, напрыклад, у выглядзе пярсцёнка або і без аніякага ружанца як прадмета. Такія розныя формы ружанца служаць для таго, каб быць заўсёды пад рукой. Аднак варта адкінуць любы звычай стаўлення да ружанца як да прадмета, якім чалавек упрыгожвае сябе.

***...варта адкінуць любы звычай стаўлення да ружанца як да прадмета, якім чалавек упрыгожвае сябе***

# Каляндар на кастрычнік

**Кастрычнік – асаблівы месяц. Асаблівасць гэтая заключаецца ў тым, што на працягу ўсяго месяца вернікі Каталіцкага Касцёла моляцца на ружанцы. І тым самым праслаўляюць Панну Марыю, давараючы Ёй не толькі свае клопаты, праблемы, але таксама і дзякуюць за маленькія жыццёвыя радасці.**

На гэты кастрычнік прыпадаюць наступныя ўспаміны:

**7 кастрычніка – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай;**

**18 кастрычніка – успамін святога Лукі, евангеліста.**

Евангеліст Лука быў антыяхійцам па нараджэнні і першапачаткова язычнікам па веравызнанні. Прыняўшы веру Хрыста ў сталіцы Сірыі, будучы сведка-пісьменнік сустрэўся з найбольш вядомым прапаведнікам Езуса – Апосталам Паўлам. Ад яго, а таксама з іншых крыніцаў, ці то запісаных, ці то вусных, ён атрымаў інфармацыю, якую змясціў на старонках Евангелля і Апостальскіх Дзеяў.

Лука ўдзельнічаў у некаторых місійных падарожжах Апостала Народаў, даследаваў жыццё Хрыста ў Палесціне, вызначаўся мастацкім талентам, быў медыкам па прафесіі.

Айцы Касцёла з першых стагоддзяў, а менавіта Ірэнэй з Ліёна (130–202), Клімэнт з Александрыі (150–215), Эўсэбій з Кесарыі (каля 325 г.), Канон Мураторыя (каля 170 г.) упэўнена называюць імя Лукі як аўтара трэцяга Евангелля і Апостальскіх Дзеяў.

Лічыцца, што Лука загінуў мучаніцкай смерцю за веру.

**22 кастрычніка – успамін святога Папы Яна Паўла II**

22 кастрычніка 1978 г. урачыста распачаўся пантыфікат Вялікага Папы Яна Паўла II, які доўжыўся 27 гадоў і быў адным з самых працяглых пантыфікатаў у гісторыі Каталіцкага Касцёла. За час свайго служэння Папа здзейсніў 146 апостальскіх візітаў на тэрыторыі Італіі, 104 замежныя візіты, абвясціў 1338 чалавек благаслаўлёнымі і 482 чалавекі – святымі. Сэрца Пантыфіка, шырока адкрытае для ўсіх, а перадусім для Бога перастала біцца 2 красавіка 2005 г. Абвешчаны святым 27 красавіка 2014 г.

**28 кастрычніка – успамін Святых Сымона і Юды, апосталаў.**

Апостал Сымон перад тым, як далучыўся да супольнасці Дванаццаці, належаў да палітычна-рэлігійнай габрэйскай групоўкі, члены якой называлі сябе зэлотамі (арамейск. кананітамі) – руплівымі, змагарамі. Пасля ўваскрасення Хрыста ён абвяшчаў Евангелле ў асноўным у Егіпце і Арменіі.

Апостал Юда Тадэвуш, які падчас развітання з Хрыстом спытаў ў Яго: «Пане, чаму Ты хочаш аб'явіць сябе нам, а не свету?», – напачатку абвяшчаў Евангелле ў Эдэсе, дзе ахрысціў мясцовага цара і ўсіх яго падданых. У знак падзякі за гэта цар Эдэсы падараваў апосталу выяву Хрыста, якую Юда Тадэвуш заўсёды насіў на грудзях.

Паводле паданняў, абодва гэтыя апосталы вялі місіянерскую дзейнасць у Сірыі, Персіі і Месапатаміі і разам былі забітыя дубінамі каля 71 г. (па іншых звестках, Сымон быў распілаваны).

Цела св. Юды з цягам часу было перавезена ў Рым і па сённяшні дзень знаходзіцца ў базыліцы св. Пятра, дзе шматлікія вернікі аказваюць яму вялікую пашану. Папа Павел III у брэве ад 22 верасня 1548 г. удзяліў поўны адпуст тым, хто будзе маліцца каля святых рэліквій Апостала ў дзень яго свята, г. зн. 28 кастрычніка.

Св. апостал Сымон з'яўляецца апекуном дрывасекаў і лясных работнікаў, а заступніцтва св. Юды Тадэвуша просяць у безвыхадных сітуацыях. Вядома, што той, хто ў самых складаных жыццёвых сітуацыях з глыбокаю вераю звернецца да св. Юды, абавязкова атрымае дапамогу – калі не тую ласку, пра якую просіць, то духоўную моц, каб несці свой крыж, цалкам аддаючыся Божай волі.

*Падрыхтавала Марына Ткач*

## Інтэнцыя Св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя Св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена Св. Імша) | |

## Дзякуй за дапамогу!

Сардэчна дзякуем кс. Анджэю Возьняку, кс. Вадзіму Прасяному, кс. Аляксандру Фядотаву і клерыку Аляксею з Гродна за гасціннасць і ахвярнасць, а таксама ўсім, хто дапамагаў у арганізацыі паездкі на Еўраджэм 2014 года.

**Вялікі дзякуй Вам!**

***Сем'і скаўтак з Пастаў***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!** Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Леанід Грыбач** (Гомель), **Яніна Дулінец** (в. Радзюкі, Шаркаўшчынскі р-н), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына), **Феліцыя Небышынец** (в. Дубовы Лог, Барысаўскі р-н), **Галіна Галуза** (Падсвілле, Глыбоцкі р-н), **Л.Ф. Альхімовіч** (Браслаў), **парафіяне з Падсвілля**, **Ф.С. Краско** (Ветрына), **Ірына Пашкевіч** (в. Празарокі, Глыбоцкі р-н), **Аліцыя** (Паставы), **Лілія Кучынская** (в. Скрэндзічы, Дзятлаўскі р-н), **Соф'я Машара** (Мёры), **Таццяна Абразова** (Віцебск), **Ядвіга Кісель** (Вілейка), **Данута Мароз** (в. Ланскія, Шаркаўшчынскі р-н), **Генавефа Бартко** (в. Абруб, Глыбоцкі р-н), **Яніна Дулінец** (в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н), **Валянціна Піваварун** (Паставы), **Вераніка Гінько** (Глыбокае), **Марыя Дземідовіч** (в. Дзеркаўшчына, Глыбоцкі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**28 верасня 2014 г. Мц 21, 28-32**

Людзі бываюць так перакананыя ў сваёй прыстойнасці, што не слухаюць нават Бога. Думаюць, што з'яўляюцца найбліжэйшымі да Бога і нават не намагаюцца шукаць і выконваць Божую волю. Грэшнікі, якія, нягл едзячы на сваю першапачатковую непаслухмянасць, апамятаўшыся, ідуць выконваць Божую волю, у большай ступені з'яўляюцца ўдзельнікамі Божага Валадарства, чым першыя, што ўпарта трываюць у сваіх перакана111111ннях, не хочучы навяртацца.

*– Ці ведаю я праўду пра сябе?*

*– Ці шчыра размаўляю пра свае справы, пастановы, думкі з Богам?*

*– Ці раблю рахунак сумлення, у якім пытаюся ў сябе самога, як люблю?*

*– Ці рэгулярна і шчыра спавядаюся?*

*– Ці маю пастаяннага спаведніка або духоўнага настаўніка, з якім разважаю пра свае праблемы і поспехі на дарозе выканання Божай волі?*

*– Як сёння, учора і на мінулым тыдні выконваў Божую волю?*

*– Што добрага я зрабіў?*

*– Што Бог хоча, каб я зрабіў?*

**5 кастрычніка 2014 г. Мц 21, 33-43**

Сённяшняя прыпавесць адказвае на пытанне, кім з'яўляецца Езус і хто даў Яму такую ўладу (Мц 21,23). Ён сын Божы, Які заахвочвае нас, каб наша жыццё і вера прыносілі плён. Пытаецца пра любоў, якую нараджае ў нас Божае Валадарства. Калі не хочам прыносіць плён, то павінны лічыцца з тым, што будзем пакараныя. Або страцім абранасць. Калі адкінем Езуса, то адкінем сутнасць. Сэнс, стрыжань і вуглавы камень нашай веры. Без Яго няма нашай сувязі з Богам. Гэта катастрофа і канец нашай веры, а таксама вечнае пакаранне. Хто ўпадзе на гэты "камень" – разаб'ецца, а на каго ён упадзе – таго раздушыць.

*– Ці прыносіць плён прысутнасць Бога ў маім сэрцы?*

*– Ці нараджаецца ўва мне любоў?*

*– Ці дазваляю ёй нарадзіцца?*

*– Ці жыву паводле закону любові?*

*– А можа, хачу жыць у Божым Валадарстве, але не па закону любові?*

*– Ці дазваляю Езусу выцягнуць мяне з нянавісці грэху і весці да жыцця ў любові?*

*– Ці дазваляю Яму ўдасканальваць маю любоў?*

*– Ці клапачуся пра тое, каб не адкінуць Езуса і Яго словы?*

*– Ці разумею, што прападу без Яго і што толькі Ён мае жыццё, толькі Ён з'яўляецца дарогай, праўдай і любоўю?*

**12 кастрычніка 2014 г. Мц 22, 1-14**

Божае збаўленне з'яўляецца запрашэннем, якое трэба прыняць. Гэта Бог нас збаўляе, але ніхто не можа разлічваць на збаўленне, не прымаючы Божага запрашэння. Патрэбна зацікаўленасць ва ўдзеле ў вяселлі, якое Бог падрыхтаваў.

*– Ці бачу Божыя высілкі ў справе збаўлення чалавека?*

*– Ці бачу Божыя намаганні ў справе майго выратавання?*

*– Праз якія справы, якіх людзей і якія натхненні Бог запрашае мяне на сваё вяселле?*

*– Ці заўсёды прымаў запрашэнне?*

*– Чаму адмаўляўся?*

*– Што я страціў, адкінуўшы Божае запрашэнне?*

*– Як стаўлюся да "божых слуг", якія запрашаюць мяне на вяселле Пана?*

*– Ці пачынаю рыхтавацца, прыняўшы запрашэнне?*

*– Што раблю, каб сустрэць Пана на зямлі і ў вечнасці?*

**19 кастрычніка 2014 г. Мц 22, 15-21**

Фарысеі, размаўляючы пра зямныя справы, спрабавалі скампраментаваць Езуса ў вачах улады і людзей. Але Езус у сваім адказе паказаў ім, як трэба паступаць, каб не ўблытацца ў путы штодзённых бытавых праблем. Адказам Езуса стала справядлівасць. Тая справядлівасць, якая бачыць галоўнага суддзю, уладара, караля, пачатак і канец у Богу.

*– Ці не раблю сваім "бажком" зямныя справы і праблемы?*

*– А можа, думаю, што часовае большае і важнейшае за Бога?*

*– Ці не ўблытваюся ў розныя свецкія справы за кошт няверанасці Богу?*

*– Ці слухаю Бога, Які прамаўляе да майго сумлення?*

*– А можа, не веру, што можна жыць па-Божаму?*

*– Можа, баюся адрачыся ад чаго-небудзь, каб захаваць годнасць Божага дзіцяці?*

*– У чым ці ў кім бачу сэнс свайго жыцця, маю надзею, радасць і збаўленне?*

*– Ці гэта Езус і Яго воля?*

*– А можа, спрабую служыць і Богу, і мамоне?*

*– Ці прашу Бога аб святле веры, каб не згубіцца сярод штодзённых спраў?*

*– Ці шукаю ў слове Божым, у малітве і ў духоўным настаўніцтве мудрасці, парады, як захаваць справядлівасць сярод штодзённых спраў?*

*– Я – прыстойны чалавек?*

Разважанні падрыхтаваў **кс. Павел Кнурэк**

# Мосару – 500 гадоў

**Вёска Мосар, што на Віцебшчыне, 30 жніўня адзначыла свой паўтысячны юбілей.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*

Святкаванне распачалося сустрэчай высокіх гасцей каля касцёла святой Ганны. Спецыяльна на ўрачыстасць прыбыў кіраўнік Глыбоччыны Алег Морхат, а таксама біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

Пасля кароткіх прывітальных словаў удзельнікі святкавання прайшлі да магілы ксяндза Юозаса Булькі, дзе ўшанавалі яго памяць малітвай. Менавіта дзякуючы працы гэтага ксяндза Мосар стаў вядомы ва ўсёй Беларусі і за яе межамі. За два дзесяцігоддзі працы святара касцёл і прылеглая тэрыторыя ператварыліся ў райскі куточак, які справядліва называюць беларускім Версалем.

Пасля ўскладання кветак да магілы ксяндза Булькі распачалася святая Імша, якую ўзначаліў біскуп Алег Буткевіч. У ёй удзельнічалі святары з суседніх парафій, мясцовае кіраўніцтва, вернікі мосарскай парафіі, а таксама шматлікія госці свята.

"Касцёл – гэта месца, якое канцэнтруе ў сабе гісторыю гэтай зямлі, тыя 500 гадоў, якія прамільгнулі ў адзін момант, але пакінулі за сабой глыбокае сведчанне, і перадусім сведчанне ўзаемаадносінаў чалавека, свету і Бога," – такія словы прамовіў біскуп Буткевіч на пачатку набажэнства.

Падчас казання віцебскі ардынарый падкрэсліў ролю ксяндза Булькі ў гісторыі Мосара, адзначыўшы, што дзякуючы яго служэнню з Мосарскай парафіі выйшла шмат святароў.

Пасля набажэнства адбылося асвячэнне камення з памятным знакам у гонар 500-годдзя вёскі. У сваёй прамове перад асвячэннем біскуп Алег Буткевіч паразважаў пра камень як пра сімвал: "Святое Пісанне не аднойчы ўжывае гэты сімвал , каб паказаць моц і веліч Божых справаў, якія Бог здзяйсняе на Зямлі".

Камень, – адзначыў біскуп, – з'яўляецца таксама знакам вечнасці. Менавіта гэта падкрэсліваў Хрыстос, Які, звяртаючыся да Пятра, сказаў: "Ты, Пётр, скала, на якой Я пабудую свой касцёл". Таму невыпадкова памятны знак усталяваны на камені. Гэта азначае, што гісторыя Мосара будзе працягвацца і далей.



Пасля асвячэння памятнага знака ганаровыя ўдзельнікі свята пасадзілі алею. Першае дрэўца ад дарогі было пасаджанае кіроўнікам Глыбоцкага раёна Алегам Морхатам і біскупам Алегам Буткевічам.

Юбілей вёскі Мосар нагадвае нам пра павагу да гісторыі і культуры. Да сваіх каранёў. Добры Бог захацеў, каб чалавек меў прыналежнасць да канкрэтнага народа і, будучы часткай яго, прыўносіў дабро для ўсяго чалавецтва.

Няхай жа квітнее Мосар, квітнее Глыбоччына і ўся наша Радзіма – Беларусь! Каб і нашыя нашчадкі маглі захапляцца тым, што мы зберaглі, захавалі і перадалі ім у спадчыну.

Бярозаўка

# Свята ўраджаю

***Біскуп заклікаў мясцовае кіраўніцтва заўсёды запрашаць святароў на бласлаўленне перад пачаткам сяўбы або жніва.***



**Свята ўраджаю адзначылі 30 жніўня ў Бярозаўцы, што на Докшыччыне.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*

Па запрашэнні айца Марэка Пасюта парафію наведаў біскуп Алег Буткевіч. Прысутныя ледзь змясціліся ў невялікім касцёле, які быў перабудаваны з былой калгаснай канторы. Але, нягледзячы на цесную, у храме панавала вельмі прыязная атмасфера.

Падчас казання віцеб-скі ардынарый звярнуў увагу на асновы нашай веры. Ён падкрэсліў, што чалавек не з'яўляецца жывёлай, як некалі хацелі нас навучыць, а ў першую чаргу – гэта істота, якая мае душу. Чалавек створаны Богам паводле Божага падабенства, таму Бог і лічыць усіх нас сваімі дзецьмі. Вось таму д'ябал і спакушае чалавека, каб гэтым нашкодзіць Богу.

Закрануў біскуп і тэму сямейных адносінаў. Шмат хто з нас жэніцца або выходзіць замуж у надзеі на тое, што гэты чалавек зробіць нас шчаслівымі. Але гэта вялікая памылка, праходзіць некаторы час – і людзі разводзяцца. Бо шчаслівым чалавека можа зрабіць толькі Бог. Калі абое сужэнцы будуць шукаць Бога, то і іх саюз будзе трывалым.

Выказаўся біскуп Алег і пра акультызм – веру людзей у розных шаптух, варажбітоў, экстрасэнсаў. У першую чаргу, трэба шукаць дапамогі ў Бога, – падкрэсліў святар, – бо ніхто не хоча задумацца, адкуль у гэтых людзей іх сіла. А калі яна не ад Бога, то тады вядома ад каго.

Напрыканцы Імшы біскуп асвяціў плады новага ўраджаю і заклікаў мясцовае кіраўніцтва, якое прысутнічала на Літургіі, заўсёды запрашаць святароў, каталіцкіх або праваслаўных, на бласлаўленне перад пачаткам сяўбы або жніва. Кіраўнік мясцовай гаспадаркі ў адказ сказаў, што яны гэта робяць, і ў гэтым годзе атрымалі адзін з лепшых ураджаяў у раёне.

Далей айцец Марэк запрасіў усіх на далейшае святкаванне па-за касцёлам. Там адбыўся канцэрт, гасцей пачаставалі смачнай юшкай, салёнымі агуркамі, блінамі, дранікамі, булкамі – усяго і не пералічыш… Святкаванне працягвалася да позняга вечара.

# Віншуем!

*Яго Эксцэленцыі біскупу Аляксандру* ***Кашкевічу*** *з нагоды Дня нараджэння, які ён адзначае 23 верасня, ад усяго сэрца жадаю моцнага здароўя, радасці, добрых людзей, апекі Маці Божай і святога Заступніка, шчодрых дароў Святога Духа. Кожны дзень памятаю Вас у малітве.*

***Ліля Кучынская,***
*парафія Рандзілаўшчына*

*Паважанаму* ***ксяндзу Міхалу Стацкевічу*** *з нагоды імянін жадаю моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчодрых Божых ласкаў, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай Святы Дух Вас апраменьвае і пасылае добразычлівых людзей на Вашым святарскім шляху. Жадаю Вашай маме здароўя і дзякую за выхаванне добрага сына. Я Вас заўсёды помню ў малітве.*

***Ліля Кучынская,***
*парафія Рандзілаўшчына*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:**
рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:**
кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:**
Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:**
Марына Сінкевіч
**Карэктары:**
Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 6679

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3300 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 24.09.2014 г. у 11.15

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621
9772224962006

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ